*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 21
Снежань
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА

## АЎРАЛ

На ААТ «Магілёўдрэў» 13 снежня адбыўся візіт А.Лукашэнкі. Перад тым на ўсю моц рыхтаваліся да яго прыезду. Кіраўніцтва прадпрыемства даручыла тэрмінова заасфальтаваць дарогі і правесці ўборку тэрыторыі. У выніку асфальт укладвалі прама ў бруд, аб чым сведчыць гэты фотадзымак.



## Рускія ідуць!

Каля 40 чалавек прынялі ўдзел у мітынгу і шэсці "Славянскі марш" 25 лістапада ў Магілёве.

Акцыя была дазволеная гарадскімі уладамі. Міліцыя папярэдзіла арганізатараў толькі аб недапушчальнасці выкарыстання незарэгістраванай сімволікі. Мэтай акцыі была заяўлена *"падтрымка традыцыйных духоўных і маральных каштоўнасцяў, ідэі славянскага адзінства, нацыянальнай і сацыяльнай справядлівасці, а таксама супраць глабалізацыі"*.



Удзельнікі акцыі прайшлі каля 200 метраў да стадыёна каля Палаца культуры завода штучнага валакна. На стадыёне адбыўся мітынг, у якім, прыехаўшы з Віцебску, узяў удзел Сяргей Рыжоў, удзельнік прэзідэнцкай кампаніі 2010 года. Ён заявіў, што *"ў цяперашні час славянскія дзяржавы падзеленыя, што адмоўна ўплывае на жыццё і дабрабыт народаў"*.

Удзельнікі мітынгу заяўлялі: *"Мы ўсе з'яўляемся прадстаўнікамі рускай нацыі"*. Гучалі лозунгі: *"Руския, вперед!", "Слава Расii!", "Слава Белай Русi!»*.

## Магілёў - культурная сталіца СНД

Магілёў абвешчаны культурнай сталіцай Садружнасці незалежных дзяржаў у 2013 годзе. Такое рашэнне, паводле афіцыйнай інфармацыі, было прынята ў сталіцы Туркменіі Ашгабадзе на пасяджэнні Рады кіраўнікоў дзяржаў СНД. У Ашгабадзе зацвердзілі і Палажэнне аб міждзяржаўнай праграме «Культурныя сталіцы Садружнасці». Яе ў 2013 годзе будуць ажыццяўляць у Азербайджане, Арменіі ды Беларусі. Разам з Магілёвам культурнымі сталіцамі абвешчаны азэрбайджанская Габала і армянскі Гюмры.

Як успрынялі навіну пра абвяшчэнне Магілёва культурнай сталіцай СНД мясцовыя дзеячы культуры, палітыкі, журналісты.



Аўтар музыкі да гімну горада **Мікалай Яцкоў** зазначае, што Магілёў варты таго, каб на яго звярнулі ўвагу і няхай, падкрэсліваe кампазітар, ён пабудзе цэлы год культурнай сталіцай СНД. *«Можа, гэта стане стымулам для Магілёва ў пытаннях развіцця мясцовай культуры, адносінаў да творцаў, да спадчыны. Праўда, найперш Магілёў быў заўжды еўрапейскім горадам. Што можа яднаць яго з тым Ашгабадам? Хіба толькі тыя семдзесят гадоў, што мы былі ў Савецкім Саюзе і тады было ўсё савецкае. Таму яднаць нас могуць толькі ўспаміны пра Савецкае мінулае. СНД ж гэта як нашчадак Савецкага Саюза. Можа, калі-небудзь Магілёў і назавуць культурнай сталіцай Эўразвяза. Ну, а пакуль, няхай пабудзе культурнай сталіцай СНД напачатку».*



Палітык **Віталь Макаранка** не разумее, што значыць быць культурнай сталіцай СНД: *«Гэта мусіць арганічна выплываць з дачыненняў Магілёва з той культурнай прасторай, якая абвясціла горад культурнай сталіцай. Мне думаецца, што гэта абсалютна штучная рэч. Трэба, каб была супольная культурная прастора, а я думаю, што яе гадоў з дваццаць папросту ўжо няма. Мне, зразумела, прыемна, што Магілёў зрабілі сталіцай хоць нечага. Можа, з гэтага што добрае і атрымаецца – прынамсі для гарадской культуры».*



Журналіст **Генадзь Суднік** зазначае, што ў Магілёве даўно рыхтаваліся да гэтай навіны і актыўнае грамадства ўсяляк прасоўвала ідэю культурнай сталіцы Беларусі, а потым СНД: *«Ёсць меркаванне, якога ўлада ніяк не хоча чуць. Калі Магілёў хоча стаць культурнай сталіцай няхай і СНД, ці Еўропы і калі ён пры гэтым не будзе беларускім – тады ў такім статусе няма ніякага сэнсу. Улада мелася б зрабіць дужа рашучыя і радыкальныя захады да таго, каб Магілёў наблізіць да горада-носьбіта беларускасці. Толькі тады ў гэтым будзе сэнс. Вось тады будзе ясна: я прыязджаю ў беларускі горад Магілёў – і вось паглядзіце, як гэта добра. А калі я прыязджаю ў горад, які ня мае нацыянальнасці, як цяпер Магілёў, то ў чым сэнс?»*



Маці адзінай вучаніцы адзінага беларускамоўнага класа, кіраўнічка жаночай грамадзкай арганізацыі «Пралеска» **Надзея Салаўёва** лічыць, што Магілёў не дацягвае да статусу культурнай сталіцы: *«Нядаўна збіраліся прадстаўнікі грамадзянскай супольнасьці гораду, і там было заяўлена, што Магілёў не мае свайго брэнду, сюды не надта едуць турысты. Ім ёсць што сказаць, але няма чаго паказаць. Каб быць культурнай сталіцай, трэба, каб жыццё было адпаведным у горадзе, а яно такое будзённае. Гісторыкі знаходзяць унікальныя факты мінуўшчыны, але колькі магілёўцаў ведае пра іх? Магілёў толькі пачынае пазбаўляцца савецкасці. Няма Магілёва з сваёй нацыянальнасцю, мовай».*

*Падрыхтаваў Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*
Паводле svaboda.org.

## Лічбы

**За апошнія 20 гадоў колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася на 770 тыс. чалавек, або на 7,5%, і на 1 студзеня 2012 года склала 9 млн. 465,1 тыс. чалавек.**

**Насельніцтва Беларусі "старэе" пераважна за кошт нізкага паказчыка нараджальнасці. Калі ў 1991 годзе доля людзей пенсійнага ўзросту складала 19,5%, то ў 2011-м – 23%.**

**Пра гэта паведаміла прадстаўнік Міністэрства аховы здароўя Таццяна Мігаль.**

## Пратэст

Амаль сто чалавек правялі мітынг супраць кропкавай забудовы ў мікрараёне "Юбілейны" у Магілёве. Людзі выказваліся эмацыйна і заяўлялі што да апошняй магчымасці будуць абараняць гай ад высечкі і гатовыя блакаваць працу будаўнічай арганізацыі.

Агароджваць пляцоўку пад забудову жылога масіва пачалі тры дні таму. Жыхароў навакольных дамоў, а гэта пераважна «хрушчоўкі», ніхто не праінфармаваў пра будучае будаўніцтва. Невядомай застаецца назва арганізацыі, якая ўзялася ўзводзіць дамы. У пляцоўкі няма інфармацыйнага стэнда з указаннем дэталяў будоўлі.

Група жыхароў 29 лістапада была ў гарвыканкаме. Высветліць ім аб будаўніцтве атрымалася няшмат. Чыноўнікі паведамілі, што дрэвы спілоўваюць з-за кропкавай забудовы. Людзям забаранілі фатаграфаваць дакументы, паводле якіх прымалася рашэнне аб будаўніцтве дамоў. Чыноўнікі сказалі, што выязджаць на месца канфлікту і размаўляць з людзьмі яны не збіраюцца без загаду вышэйшага начальства.

Людзі непакояцца, што падчас убівання паляў пад новыя дамы не вытрымаюць старыя «хрушчоўкі». Некаторым з іх ужо пад 50 гадоў. Бярозы высаджваліся рукамі жыхароў мікрараёна. За тры дзесяткі гадоў гай стаў неад'емнай часткай раёна.

Актыўныя жыхары мікрараёна сабралі больш за дзве сотні подпісаў пад зваротам да гарадскіх ўлады спыніць будаўніцтва.

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*
Паводле TUT.by, БелаПАН, svaboda.org

# Ці была вайна 1812 года Айчыннай?

У Беларускім дзяржаўным універсітэце прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя *«Вайна 1812 года і Беларусь»*. Яна арганізавана ўладамі краіны. У канферэнцыі прынялі удзел навукоўцы з Беларусі, Расіі, Францыі, Італіі, Украіны, Польшчы.



Раней Інстытут гісторыі НАН Беларусі прыйшоў да высновы, што выкарыстанне тэрміна *«Айчынная вайна 1812 года»* ўяўляецца неабгрунтаваным ў афіцыйнай беларускай гістарыяграфіі.

Пісьменнік Уладзімір Арлоў заявіў, што вітае гэты крок беларускіх вучоных, так як гэтая вайна не была «айчыннай» для беларусаў:

*«Мне здаецца, нейкія рашэнні на гэтую тэму ўжо прымаліся. Бо калі мы зазірнем у некаторыя энцыклапедычныя даведнікі, там фігуруе «вайна 1812 года». Наогул, калі звярнуцца да саміх падзеяў, то натуральна, што гэтая вайна не была айчыннай для нашых зямель. Бо як раз шырокія колы тагачаснага грамадства, ліцьвінскага грамадства былога Вялікага княства Літоўскага, якое зусім нядаўна было інкарпаравана ў склад Расійскай імперыі, звязвалі з Напалеонам надзеі на аднаўленне незалежнасці. І як мінімум 25 тысяч нашых суайчыннікаў служылі ў «Вялікай арміі» Напалеона. А сяляне мелі свае надзеі, звязаныя з Напалеонам. Яны спадзяваліся, што ён адменіць прыгоннае права на нашых землях. На жаль, гэтым ілюзіям не дадзена было споўніцца. Але, тым не менш, ВКЛ было адноўлена, быў створаны ўрад. Хай усяго толькі на некалькі месяцаў. Гэтая вайна, як мы бачым, зусім не была айчыннай, як для Расіі. Яна мела пэўныя прыкметы грамадзянскай вайны. Бо ў расійскай арміі служылі ў той час, па некаторых ацэнках, да ста тысяч рэкрутаў з нашых земляў, якія вельмі часта ваявалі супраць сваіх братоў. Расія не была Бацькаўшчынай для нашых продкаў. Гэтак жа як і для сучаснікаў. І я спадзяюся, што яна ніколі не стане Бацькаўшчынай. Айчынай было ВКЛ».*

**Юлія БРУК.**

# "Чарнілам" - канец?

Вытворчасць і рэалізацыя пладова-ягадных ардынарных вінаў у Беларусі будуць спынены з 1 студзеня 2013 года. Аб гэтым заявіў прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч.

Паводле яго слоў, пытанне аб забароне рэалізацыі пладова-ягадных вінаў разглядалася напярэдадні на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў. *"Мы прынялі рашэнне, што гэтых вінаў з 1 студзеня 2013 года не будзе ў продажы і ў вытворчасці",* – сказаў ён.

Кіраўнік урада таксама дадаў, што айчынным прадпрыемствам неабходна будзе перапрафіляваца на вытворчасць пладова-ягадных він палепшанай якасці. Гэтыя віны практычна не саступаюць вінаградным, у якіх асноўнай сыравінай з'яўляюцца імпартуемыя вінаматэрыялы. *"Халтуры не будзе,* – сказаў прэм'ер-міністр. – *Разлічваць на атрыманне хуткіх грошай таксама не варта – працаваць трэба, вырабляючы якасную прадукцыю».*

# Паэзія на цэтліку



**Беларусаў заўжды называлі нацыяй паэтаў. Хто з нас змалку не складаў словаў у радкі, не баяўся з рыфмамі? Паэты ў нас паўсюль, а не толькі ў літаратурных саюзах: і ў высокіх кабінетах, і ў размаляваных пад'ездах. Акрамя традыцыйных бібліятэк сапраўднымі паэтычнымі скарбніцамі ў Беларусі ёсць нават звычайныя прадуктовыя крамы.**

**Паэт Мікола Яцкоў хоць і нарадзіўся ў Магілёве, але жыве ў вёсцы. Гаворыць, што адсюль лепш бачна душу народную, пра якую зрэшты паэт і піша.**

**МІКОЛА ЯЦКОЎ, ПАЭТ:**

*“А беларус ва ўсім багаты,*
*У ім узнёслась не адна –*
*Душу сваю кладзе заўзята*
*На этыкеткі з-пад віна...”*

**Душа народная ў беларусаў і сапраўды паэтычная. Заходзіш у звычайную краму і чуеш:**

**ПРАДАВАЧКА:**

*“Солнечного наслаждения” за дзень прадаецца скрынак сем, недзе так”.*

**У тых самых вінных аддзелах акрамя “Солнечного наслаждения” сапраўдныя аматары народнай паэзіі знойдуць “Клубничный бриз”,“Весеннее вдохновение” ці сяброўскі “Весёлый дуэт”. Сваёй абранніцы заўсёды можна прапанаваць “Прошлогоднюю кадриль” або “Позднюю любовь”, для ўзмацнення пачуццяў прыдасца “Серенада”.**

**ЖЫХАРКА:**

*“Мне пашчасціла: калісьці я працавала ў краме з паліцаю гэткага кантынгенту вінаў. І там былі назвы “Загадка”, “Восеньскі арамат”... “Містэр Ікс” – вельмі інтрыгоўная і захапляльная назва! Вельмі цікава. Нашыя беларускія дызайнеры на славу працуюць!”*

**Зрэшты, такія назвы як, напрыклад, “Маскарад” або “Александр и я” падабаюцца не ўсім. Як той казаў, няма таго, што раньш было!**

**ЖЫХАР:**

*“Калі ўзяць тыя гады, то тады найлепшы быў партвейн “Тры сямёркі” і “Дзве сямёркі”. А цяпер такое віно пайшло – “Блэндэрбуд”!”*

**Дарэчы, закусіць паэтычны “Блэндэрбуд” заўсёды можна кавалачкам не менш паэтычнай каўбасы “Наслаждение” або хаця б засмактаць “Улётным леденцом”. Балазе, айчынныя вытворцы прапаноўваюць цэлы букет красамоўных рэцэптаў.**

**МІКОЛА ЯЦКОЎ, ПАЭТ:**

*“Калі знікне гэтая “барматуха”, дык гэта ж знікне цэлы пласт культуры, я лічу. Таму што ўсёткі ў гэтым ёсць нейкая культура. Таму што адна справа – выпіць гэтую бутэльку, і зусім іншая справа – паглядзець на нешта такое прыгожае. Вось, напрыклад, малюнак Леанарда да Вінчы, Рэнесанс – каб людзі ўгледзеліся і падумалі аб нечым высокім і ўзнёслым”.*

**Пра што можна падумаць, выпіўшы пляшку таннага віна, – залежыць ад асабістай паэтычнасці кожнага спажыўца. Пры гэтым лекары падказваюць, што шукаць сапраўднай паэзіі варта ўсё-ткі не на донцы бутэлькі.**

***Валеры РУСЕЛІК.***

“БЕЛСАТ”.

# "Мінімалку" падвысяць

Мінімальная заработная плата ў Беларусі з 1 студзеня складзе Br 1 млн. 395 тыс. Пагадзінная мінімальная заработная плата ўстаноўлена ў памеры Br 8 тыс. 340.

Нагадаем, што, з 1 студзеня 2012 года пастановай Савета Міністраў месячная мінімальная заработная плата была ўстаноўлена на ўзроўні Br 1 млн., гадзінная мінімальная заработная плата – Br 5 тыс.



*Вось такі бел-чырвона-белы вясельны строй для нявесты выстаўлены ў вітрыне адной з магілёўскіх крам. Спадзяемся, што ў бліжэйшай будучыні такія фасоны будуць карыстацца вялікім попытам.* Фота М.Яцкова.

# Слова не верабей

**У далёкім 1987 годзе, калі аб развале СССР можна было толькі памарыць, а сотавая сувязь і інтэрнэт яшчэ знаходзіліся ў "зародкавым" стане, за фразы, якія сёння для нас звыклыя, лёгка можна было "загрымець" у "псіхушку".**

**Вось прыкладны спіс фраз, з-за якіх 25 гадоў таму беларус лёгка мог апынуцца ў дурдоме:**

- *Не магу ўвайсці ў пошту.*
- *Я тэлефон дома забыўся.*
- *Я зараблю тры мільёны.*
- *Давай падорым яму хатні кінатэатр.*
- *Дай мне дзве тысячы рублёў на метро.*
- *А для паездкі ў Крым віза патрэбна?*
- *Уторкніце мне зарадку.*
- *У мяне ўжо рука замерзла з табой размаўляць.*
- *Я табе ліст дзесяць хвілін назад паслаў, ты атрымаў?*
- *Скінь мне фотаздымкаў на мыла.*
- *Пакладзі мне грошы на трубу.*
- *Івана няма дома, ён у арміі. Вы яму патэлефануеце.*
- *Пакуль ехала ў машыне, паслела кнігу паслухаць.*
- *Давай злятаюцца на Мальдывы (у Ізраіль, ЗША ...)!*
- *Памяняй мне расійскія рублі на беларускія.*
- *Беларусь будзе абараняць сваю незалежнасць!*

Паводле «НН».

# Лічбы

**Беларусь співаецца.**

Нагадаем: паводле рэйтынгу Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, Беларусь уваходзіць у дзясятку краін з найбольшым спажываннем спіртных напояў.

Медыкі лічаць крытычнай сітуацыю, калі чалавек ужывае 8 літраў алкаголю ў год. У Беларусі гэты паказчык у паўтара з гакам разы больш.

За апошняе амаль дваццацігоддзе спажыванне алкаголю вырасла ў 2 разы:

**з 6,7 літраў на чалавека ў 1995 годзе да 13,3 – у 2011-м!**



“СПРАВА”
Инфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь “Аб сродках масавай інфармацыі”.

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 12.12.2012. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

«СПРАВА» заўсёды на www.kamunikat.org/